# Голас Радзімы

№ 43 (2029)
22 кастрычніка 1987 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



Прайшоў амаль год з часу прыняцця ў нашай краіне Закона аб індывідуальнай працоўнай дзейнасці. Сёння толькі ў Мінску, напрыклад, зарэгістравана ўжо 249 кааператываў. Гэта прадпрыемствы грамадскага харчавання, кааператывы, якія выконваюць самыя разнастайныя паслугі. Дзейнічае нават служба знаёмстваў пры дапамозе ЭВМ.

Аб адным з кааператываў, які вырабляе жаночыя ўпрыгажэнні, матэрыял «Пошук» у пошуку» змешчаны на 3-й стар.

НА ЗДЫМКУ: пасяджэнне мастацкага савета кааператыва «Пошук».

ЧАМУ ДЗЯРЖАВА ЗААХВОЧВАЕ ІНДЫВІДУАЛЬНУЮ ПРАЦОЎНУЮ ДЗЕЙНАСЦЬ

# «ПОШУК» У ПОШУКУ



Пазнаёміцца з якім-небудзь кааператывам мяне падштурхоўвалі дзве прычыны. Першая: трэба было расказаць пра новую з'яву ў нашым жыцці чытачам газеты. Другая: цікава ўсё ўбачыць на ўласныя вочы. Дагэтуль сярод маіх знаёмых членаў кааператыва не мелася.

У гарадскім Савеце сталіцы, які каардынуе і кантралюе індывідуальную працоўную дзейнасць мінчан, мне прапанавалі на выбар некалькі адрасоў. Назвалі кааператыўныя кафэ, аб'яднанні па вырабу трыкатажных рэчаў, карункаў, жаночых упрыгажэнняў.

Я доўга не вагалася і выбрала «Пошук» — кааператыў, які займаецца перапрацоўкай касцей, вырабам з гэтага матэрыялу завушніц, пярсцёнкаў, бранзалетаў...

Іх можна ўбачыць на прылаўках такіх прэстыжных і папулярных магазінаў Мінска, як ювелірныя «Чараўніца», «Аметыст», «Малахітавая шкатулка», «Яхант» і буйнейшага ў рэспубліцы універмага «Беларусь». Прадукцыя «Пошуку» карыстаецца попытам, таму што рэчы, якія выпускаюцца тут, арыгінальныя і танныя. Пярсцёнкі, напрыклад, каштуюць ад трох да сямі рублёў. Завушніцы прыкладна столькі ж.

З гэтага далікатнага пытання цаны, якая пазначана на этыкетках з маркай «Пошуку», і пачалася наша гутарка са старшынёй кааператыва Д. Фрыдам.

— Сапраўды, вызначыць цану для продажу — справа няпростая. Наша майстэрня існуе на прынцыпах самафінансавання і самаакупнасці. Таму з тых грошай, што мы атрымаем ад рэалізацыі нашай прадукцыі, нам трэба зрабіць неабходныя адлічэнні для падтрымання і развіцця сваёй вытворчасці, а таксама мець чысты прыбытак, і немалы, бо інакш людзі не будуць працаваць у гэтым кааператыве. Разам з тым без меры завышаць цану — таксама немэтазгодна. Пакупнік не будзе купляць нашы вырабы, і магазіны адмовяцца браць іх. Пакуль цана рэгулюецца і спецыяльнымі разлікамі, і эмпірычна. Для прыкладу возьмем пярсцёнкі. Яны карыстаюцца попытам, але калі пакупніку прапаноўвалі іх па восем рублёў за штуку, рэалізацыя ўскладнілася. А па сем — ішла нармальна. Гандлёвыя работнікі арыентуюць нас і ў тым, што тычыцца густаў пакупнікоў. Падказваюць, якая мадэль больш папулярная, а значыць, прыбытковая, а якую трэба ўдасканаліць, а то і наогул зняць.

Так, супрацоўніцтва з дзяржаўнымі гандлюючымі арганізацыямі ў кааператыва вельмі цеснае і плённае. Гандаль атрымлівае сваю частку даходу ад продажу кааператыўных вырабаў, а значыць, папаўняецца дзяржаўная «кішэня», больш багатым і разнастайным робіцца прылавак дзяржаўных гандлёвых прадпрыемстваў. Дарэчы, і ўзнік «Пошук» з дапамогай вельмі аўтарытэтнай і ўплывовай арганізацыі—Дзяржаўнага камітэта па матэрыяльна-тэхнічнаму забеспячэнню пры Савеце Міністраў БССР. Як жа гэта адбывалася?

— За апошнія два гады ў нас у краіне і ў рэспубліцы выйшла некалькі ўрадавых пастаноў, якія заахвочвалі індывідуальную працоўную дзейнасць савецкіх грамадзян, у тым ліку кааператываў па нарыхтоўцы і перапрацоўцы другаснай сыравіны. Да іх належым і мы, — расказвае Дзмітрый Фрыд. — Я асабіста ўжо некалькі дзесяцігоддзяў займаюся мастацкай апрацоўкай косці. Доўгі час жыў і працаваў на Поўначы, дзе гэты від рамяства вельмі развіты. Прымаў удзел у мастацкіх выстаўках творчасці народных майстроў. Мае работы экспанаваліся і за мяжой. Калі пераехаў на жыхарства ў Беларусь, справу гэтую не пакінуў. Ведаю, што калісьці і ў нашым краі мела распаўсюджанне мастацкая апрацоўка косці, але зараз гэтае рамяство забытае. Вось і ёсць у мяне мара — аднавіць тыя згубленыя мастацкія традыцыі. Спачатку займаўся разьбой адзін, у вольны час, потым займеў вучня. З ім мы і прыйшлі са сваімі прапановамі ў камітэт па матэрыяльна-тэхнічнаму забеспячэнню. Прынеслі ўзоры таго, што ўмеем рабіць, расказалі аб планах. Нашу ініцыятыву падтрымалі супрацоўнікі аддзела другасных рэсурсаў. Выдзелілі ў арэнду памяшканне. На свае ўласныя сродкі абсталявалі яго, купілі патрэбныя прылады, інструменты. Знайшліся жадаючыя далучыцца да нас. Усяго спачатку было пяць чалавек. Так з'явіўся кааператыў «Пошук».

Пытанне аб зацвярджэнні «Пошуку», як ужо казаў старшыня кааператыва, было вырашана хутка і з добрым разуменнем справы. Летась пятнаццатага лістапада Д. Фрыд звярнуўся са сваёй просьбай аб рэгістрацыі ў Першамайскі раённы выканком, а васемнаццатага атрымаў станоўчае рашэнне. Далей поспех пачатай справы залежаў ад майстэрства і ініцыятыўнасці саміх членаў кааператыва.

У час сустрэчы з членамі кааператыва я пацікавілася іх асацыяльным становішчам, асноўнай работай, пыталася, колькі гадзін працуюць яны ў кааператыве. Высветлілася, што зараз у «Пошук» уваходзіць каля дваццаці членаў, некалькі дзесяткаў чалавек працуюць па дагавору. Усяго, такім чынам, больш за сорак работнікаў. Ёсць сярод іх людзі яшчэ маладыя, тыя, у каго галоўнае — праца на грамадскай вытворчасці, ёсць хатнія гаспадыні, студэнты, пенсіянеры. Працуюць усе ў свой вольны ад асноўнай работы час. Пенсіянеры і хатнія гаспадыні маюць яго, безумоўна, значна больш, чым астатнія катэгорыі работнікаў. Аплата здзельная: колькі зрабіў, столькі і атрымаеш адпаведна прэйскуранту работ. Максімум 500—600 рублёў. Тыя, хто працуе пасля асноўнай работы і па выхадных — па 200—250 рублёў.

Акрамя заработнай платы, з сумы даходу робяцца адлічэнні: 20 працэнтаў у фонд развіцця кааператыўнай вытворчасці, 5 працэнтаў — страхавы фонд. Тры працэнты ад агульнага даходу кааператыва ідзе на аплачванне падаходнага падатку дзяржаве. Акрамя таго, кожны работнік плаціць падатак са свайго канкрэтнага ўласнага заработку.

Які ж далейшы намер кааператараў з «Пошуку»? Вельмі сур'ёзны. Павялічваць і разнастаіць выпуск сваёй прадукцыі, выйсці з ёю і да замежнага пакупніка. Першы крок ужо, дарэчы, зроблены. З Чэхаславакіі атрыманы заказ на 40 тысяч рублёў. Зараз ён паспяхова выконваецца. Ёсць і яшчэ адна задума: наладзіць сумесную вытворчасць з польскімі кааператарамі і такім чынам пашырыць і свае мастацкія, вытворчыя магчымасці, і рынак збыту. З гэтай мэтай у хуткім часе старшыня кааператыва збіраецца наведаць Польшчу. А пакуль «Пошук» рыхтуецца цалкам змяніць усю сваю калекцыю вырабаў, што знаходзіцца ў вытворчасці. Упрыгажэнні павінны адпавядаць і патрабавальным густам, і зменлівай модзе. Аднастайнасць тут недапушчальная. Яна можа прывесці прадпрыемства да банкруцтва. І таму трэба працягваць пошук.

**Галіна БРАТКО.**





**НА ЗДЫМКАХ: вырабы кааператараў; работніца прадпрыемства Таццяна КАРТАШОВА; тут можна купіць прадукцыю «Пошуку».**

**Фота С. КРЫЦКАГА.**

АДНА З ПЕРШЫХ ЛІНІЙ — У ВІЦЕБСКУ

# МУЗЕЙ ГІСТОРЫІ ТРАМВАЯ

Сярод музеяў старажытнага беларускага горада Віцебска ёсць адзін даволі-такі рэдкі — Музей гісторыі трамвая. Яго дырэктар — ветэран гарадскога трамвайнага дэпо, гарачы прыхільнік гэтага віду транспарта Леанід Забела. Ён добра ведае гісторыю трамвая і з захапленнем расказвае аб ёй наведвальнікам, знаёміць са шматлікімі экспанатамі музея.

Ідэя выкарыстання электрычнага току для перамяшчэння экіпажаў узнікла ў 30-я—40-я гады XIX стагоддзя, але ажыццяўленне яе стала практычна магчымым толькі ў 70-я гады, калі былі пабудаваны першыя электрастанцыі. Прататыпам сучаснага трамвая быў «рэйкавы экіпаж» з электрарухавіком, распрацаваны ў 1876 годзе рускім вынаходнікам у галіне электратэхнікі Фёдарам Піроцкім, які жыў і працаваў у Пецярбургу. У 1880 годзе Піроцкі першы пабудаваў і выпрабаваў вагон, які прыводзіўся ў рух падвясным цягавым электрарухавіком пастаяннага току. Токаправодам служылі ізаляваныя ад зямлі рэйкі, па якіх гэты вагон рухаўся.

Пазней работы па стварэнню трамвая праводзіліся таксама ў Германіі і іншых краінах Еўропы. У 1881 годзе трамвай быў пушчаны ў мястэчку Ліхтэнфельдзе пад Берлінам. Вагон, які ўмяшчаў 20 пасажыраў, развіваў хуткасць да 30 кіламетраў у гадзіну. У 80-я гады мінулага стагоддзя трамвайны рух быў адкрыты ў многіх гарадах Еўропы і Амерыкі.

Рэгулярная эксплуатацыя трамвая ў нашай краіне пачалася толькі ў 90-я гады мінулага стагоддзя. Віцебск стаў трэцім горадам у Расіі, які адкрыў трамвайны рух у 1898 годзе ўслед за тым, як упершыню рэйкавыя лініі былі пракладзены ў Кіеве ў 1892 годзе і ў Ніжнім Ноўгарадзе ў 1896 годзе. У Маскве трамвай паявіўся ў 1899 годзе, а ў Пецярбургу — толькі ў 1907-м.

За пракладку першай трамвайнай лініі ў Віцебску ўзяўся бельгійскі камерсант Ф. Гільон. Яе працягласць склала пяць кіламетраў. На канцавых прыпынках пасажырам самім, уручную даводзілася заварочваць вагон, каб накіраваць яго назад. Тым не менш жыхары Віцебска па вартасці ацанілі гэты «цуд прагрэсу» таго часу: за першы год эксплуатацыі віцебскі трамвай перавёз 1,3 мільёна пасажыраў.

Цікава, што і ў канцы мінулага стагоддзя, як і зараз, праезд на трамваі каштаваў пяць капеек. Праўда, тады, каб зарабіць пятачок, рабочаму завода даводзілася працаваць ля станка некалькі гадзін. Гадавы прыбытак Ф. Гільона складаў тады восем тысяч рублёў. Сёння ж, наадварот: на ўтрыманне і эксплуатацыю 25 аўтобусных, 4 тралейбусных і 10 трамвайных маршрутаў, якія ў сярэднім штодзень перавозяць 650 тысяч пасажыраў у Віцебску, з дзяржбюджэту выдзяляецца датацыя каля 2 мільёнаў рублёў у год.

На рубяжы стагоддзяў вадзіцелямі і кандуктарамі трамваяў маглі стаць выключна мужчыны. Гэта прафесія лічылася складанай і вельмі ганаровай. Жанчыны-кандуктары паявіліся ў Расіі толькі ў гады першай сусветнай вайны, калі ім давялося замяніць пайшоўшых на фронт мужчын. Сёння ж вадзіць тралейбус і трамвай у нашай краіне лічыцца пераважна жаночай справай.

Чаму менавіта ў Віцебску, які ў канцы мінулага стагоддзя не ўваходзіў у лік важных цэнтраў Расіі, праклалі адну з першых у краіне трамвайных ліній? Дырэктар музея Леанід Забела хітравата ўсміхаецца:

— Калі верыць старажылам, прычынай гэтага стала мясцовае піва, якое сваім выключным смакам прыцягнула замежнага камерсанта... Але наўрад ці гэта можна лічыць сур'ёзнай прычынай для будаўніцтва трамвайнай лініі.

Рэцэпт таго піва даўно згублены, а трамваі працягваюць бегаць па вуліцах Віцебска...

**Наталля БУЛДЫК.**

## ЗАКОНЧИЛИСЬ КУРСЫ УЧАСТНИКОВ ХУДОЖЕСТВЕННОЙ САМОДЕЯТЕЛЬНОСТИ

# И ЗАЗВУЧИТ ПЕСНЯ...

**В начале октября закончили работу курсы, организованные Министерством культуры БССР и Белорусским обществом «Радзіма» для руководителей и участников художественной самодеятельности, наших соотечественников, проживающих за рубежом. Эти заметки — несколько впечатлений о пребывании гостей из Бельгии, Голландии, Италии и Финляндии на белорусской земле.**





Приближается 70-я годовщина Великой Октябрьской социалистической революции. В Советской стране этот юбилей будет отмечаться как большой всенародный праздник.

Торжественными вечерами, концертами ознаменуют его и наши соотечественники, живущие вдали от Родины. Обязательной участницей каждого вечера, на который соберутся русские, белорусы, украинцы, станет их родная песня. Зазвучит она величаво и раздольно или тихо и задушевно, напомнит ширь полей, задумчивый шум леса, неторопливую речушку за селом. И заноет, затоскует душа, покатится слеза, как случилось с Надеждой Колесниковой в день окончания курсов на концерте-экзамене, когда запели они песню «Ой, по-над Волгой».

**Дуй, ветерок, песню неси,**
**Пусть ее слышат все на Руси.**

— Вы, видно, очень волновались перед экзаменом, — подошла я к Надежде Андреевне после того, как всем им, занимавшимся на курсах, были вручены свидетельства об их окончании.

— Да нет. Я себя уверенно чувствовала, — ответила она.— А расплакалась от песни. Ведь она о Родине, о заветном. И еще я в этот момент почувствовала гордость, потому что я, пусть совсем крохотная, песчинка с этой земли. А она неповторима, особенно для нас, ее детей. Вот и опять расстаемся, уезжаем. Оттого и в Голландии, бывает, поем и плачем.

Они не представляют своей жизни без песни. Была она отрадой и утешением в самые горькие, трудные и в самые радостные минуты жизни. При союзах, землячествах, федерациях создаются обычно коллективы художественной самодеятельности, хоры.

В свой первый приезд в Минск, а было это лет пятнадцать назад, наша землячка из Бельгии Нэля Францева вспоминала, как нелегко приходилось им в первые годы после войны совмещать домашние обязанности, работу с занятиями в хоре. Дети маленькие, и мужья еще не очень «сознательные». Это потом уже наши женщины и своих мужей-бельгийцев привлекли к работе в Союзе советских граждан. Теперь ни одно мероприятие в отделах не обходится без их участия. А многие и сами стали участниками хоров и даже солистами.

Детство и молодость наших соотечественниц, угнанных в фашистское рабство, пришлись на довоенное время, когда очень популярными были песни «Катюша», «Чайка», «Спят курганы темные». Потому и поют они их до сих пор часто, вспоминая дом, родных, себя молодыми и беззаботными.

Надежда Дюббе рассказывала, как ее пригласили принять участие в концерте в честь открытия прямой авиалинии между Нидерландами и Ленинградом. Усиленная г миками, звучала над аэр ртом в Амстердаме русская «Катюша», и люди улыбались друг другу, становились приветливее, и мысли, надо полагать, в тот момент были у них мирные.

Из Финляндии вместе с нашей землячкой Вер Хьелм приехали финны — муж Вяйне Хьелм и Пекко Лайне. Очень быстро все в группе на русский манер Пекко стали называть Петей, проникшись к нему симпатией за его доброжелательность, готовность быть чем-то полезным, за мягкий, спокойный характер. Дуэт Вяйне и Пекко — губная гармошка и русская трехрядка — пользовался большим успехом у слушателей. А самой популярной песней в их исполнении была все та же «Катюша». Трехрядку привез с собой в Минск Пекко Лайне, потому что очень любит русскую песню, музыку, неплохо говорит по-русски, часто бывает в Советском Союзе. В созданном из курсантов хоре он вместе со всеми пел и о Волге, и «Зорку Венеру» и «Бульбу».

Курсы приносят их участникам большую пользу. Квалифицированные педагоги, у которых большой опыт работы и с таким контингентом слушателей, как наши соотечественники, разучивают с ними новые песни и танцы, учат дирижировать хором, подбирать репертуар, понимать и чувствовать песню. Конечно, чтобы лучше понять песню, нужно знать народ, ее создавший, его историю и культуру.

Курсы обычно продолжаются три недели, а программа их очень насыщенная. Кроме ежедневных занятий, для гостей организуются встречи с интересными людьми, экскурсии, поездки.

— Было бы неплохо, если бы сутки были подлиннее, — шутила Виолетта Фадда.

Каждые два-три дня наши земляки бывали в театрах, познакомились с известными у нас в республике профессиональными и самодеятельными коллективами, присутствовали на репетициях, беседовали с артистами. Большинство из тех, кто приехал к нам в этом году на курсы, никогда раньше не бывали на родине поэта Янки Купалы в Вязынке, в Хатыни, в легендарной Брестской крепости.

Поездка в Брест была утомительной. Чтобы не пропускать занятий, решили вернуться в Минск в тот же день. Дорога же в оба конца — почти 800 километров.

— Все равно поедем, — решили наши гости.

— Столько раз проезжала через Брест, а города и крепости не видела, — говорила Надежда Колесникова.

О подвиге героев Брестской крепости люди знают во всем мире. Отсюда, от нашей западной границы, началась Великая Отечественная война, принесшая столько мучений и горя советским людям. Защитники цитадели сражались до последней капли крови, до конца выполнили свой долг. И не их вина, что не смогли в июне 1941 года сдержать яростный натиск врага. Слишком неравными были силы. А крепость старой постройки к тому времени давно утратила свое оборонное значение и не могла укрыть тех, кто сражался за ее стенами. Плавился кирпич, рушились здания, но крепче железа и камня были люди. Это в честь их, известных и безвестных солдат, в наши дни на руинах крепости воздвигнут величественный мемориал, где всегда многолюдно, всегда живые цветы, да звучит разноязыкая ре Брестская крепость — наша история, наша святыня, и поклониться ей земляки считали своим священным долгом.

Многие из них не впервые у нас в республике, на курсах. Второй раз, через пять лет, приеха Нина Гапон и Тамара Лагуно Мария Медведева.

— А мой сын был в Минске 20 лет тому назад, — сказала Вера Хьелм. — Отдыхал тогда в пионерском лагере. До сих пор помнит. А мы Белоруссию знали только по ансамблю «Хорошки», который у нас выступал. Я, мой муж Вяйне и Пекко теперь просто влюблены в этот край, его людей. На время даже забыли, что живем в Финляндии. Очень счастливые дни мы провели в Минске.

— Это правда, — поддержал Веру Григорьевну Пекко Лайне. — Люди здесь настолько доброжелательные, что среди них чувствуешь себя, как дома.

В последний день пребывания участников курсов в Минске состоялся прощальный вечер. Председатель президиума Белорусского общества «Радзіма» народный художник Михаил Савицкий пожелал землякам успешной работы в их художественных коллективах, в пропаганде нашей культуры.

**Диана ЧЕРКАСОВА.**

**НА СНИМКАХ: участники курсов побывали в мастерской художника Михаила САВИЦКОГО; дуэт Надежда ДЮББЕ и Пекко ЛАЙНЕ; занятия в классе. Дирижирует Нина ГАПОН; в Хатыни.**





## НА ПРОСТОРАХ РОДИНЫ

# «ВЕЧНЫЙ КАМЕНЬ»

Первые упоминания о находке нефрита в нашей стране появились в 20-х годах прошлого века. Месторождения нефрита промышленного значения были обнаружены в Сибири, на реке Омот в 1850 году. Огромный нефритовый валун из этих мест весом 534,5 килограмма экспонируется сейчас в отделе минералогии Британского музея естественной истории.

На сегодняшний день месторождения этого камня сосредоточены в основном на территории Восточной Сибири. Здесь выделяются четыре крупных нефритоносных района: Западно-Саянский, Восточно-Саянский, Джидинский и Витимский, где разрабатываются десятки месторождений. Одно из них — Оспинское — открыто в 1967 году. Здесь на площади пять квадратных километров обнаружено 16 нефритовых жил, сосредоточенных в трех нефритоносных зонах. Первая — длиной в два километра, мощностью (высота пласта) — 50 метров. Аналогичные показатели второй зоны — соответственно один километр и 100 метров, длина третьей зоны — 400 метров, мощность — около 100 метров.

На Оспинском месторождении встречаются нефриты самых разных оттенков, в том числе ярко-зеленые, ценящиеся наиболее высоко. Вообще наш отечественный «вечный камень», как называют нефрит, зачастую уникален. Цвета его насыщены и ярки, камни необыкновенно прозрачны (они просвечиваются на глубину 10—16 и более миллиметров), что позволяет использовать их для изготовления высококачественных ювелирных изделий.

Сибирские месторождения нефрита весьма богаты. Так, на открытом в 1973 году Горлыкгольском месторождении на площади 12 квадратных километров обнаружена 31 нефритоносная жила. Очень перспективно, по мнению специалистов, и открытое в 1972 году Бортогольское месторождение, площадь которого — 18 квадратных километров.

Большие надежды связывают и с освоением ряда других нефритоносных месторождений — Хамархудинского, Парамского, Буромского, Голюбинского.

В последние годы проведен ряд исследований с целью выявления закономерностей расположения залежей нефрита. На основе этих исследований составлены долгосрочные прогнозы освоения нефритоносных районов.

Прекрасно поддающийся обработке, нефрит служит главным образом для изготовления ваз и бокалов, шкатулок и ларцов. На ювелирных предприятиях из него изготовляют кольца, серьги, бусы, запонки и другие украшения.

Изделия из нефрита находят неплохой спрос и за рубежом. Их покупают фирмы США, ФРГ, Италии. Ценятся они и на Востоке, где, как известно, нефрит — один из самых любимых и популярных камней. Вазы, рюмки, подносы, ювелирные изделия приобретают у внешнеторгового объединения «Алмазювелирэкспорт» фирмы Сингапура, Японии и Таиланда.

**Олег МИЛЮКОВ.**

# LEARNING DEMOCRACY

**The 9th All-Union Rally of Young Pioneers has taken place. Once every five years the best representatives of the largest children's mass organization in the USSR come together in Artek — a vast Pioneer camp on the shores of the Crimea, called the «youngsters' republic». Leading newspapers featured the rally. Its unexpected closure, however, is the reason for this article.**

THE CEREMONIAL parade went as usual. More than 2,500 delegates formed a square. The Black Sea peacefully lapped behind them, the Medved-Gora (Bear Mountain) stretched comfortably along the shore, graceful cypresses watched over everything. There was the roll of drums and bugles sounded. The final text of the resolution of the rally was read out solemnly, as is usually done. The only thing that remained was to vote.

«Do you approve your resolution?» Igor Nikitin, Chairman of the Central Council of the All-Union Young Pioneer Organization, Secretary of the Komsomol Central Committee, asked the ranks. «Is there anyone against it?»

Perhaps the question was not rhetorical but the answer that followed was not expected by the organizers or by the journalists.

«We do not ag-ree! We protest» chanted the children. The light was turned off above the groups that got particularly violent, and this enraged TV cameramen. But the pioneers moved to the illuminated rostrum, closer to the mike. Their speeches were mainly incoherent. One of them was offended because he did not find his proposal in the general resolution. The other blamed the resolution for being «vague» and addressed to no one, the third said it was insincere. A girl shouted into the mike: «Comrades! We must fight for freedom». Youthful pioneer leaders expressed horror at seeing their groups disperse.

Surprises do not spring «from nothing». During the rally and long before it the Young Pioneers were inexorably urged to show efficiency, independence in judgement, determination in their actions, and were fold insistently that the 9th rally must lay the foundation for an absolutely essential and urgent restructuring of the Pioneer organization. Naturally, Young Pioneers had nothing against it. But the adults, secretaries of regional organizations heard quite different words from Nikitin: «The rally does not adopt major documents but only approves the resolutions of the Central Council of the All-Union Young Pioneer Organization». Unfortunately, the main document of the rally fully confirms this. The overwhelming majority of its theses begin with the words «Let's», «We are ready», «The rally approves», «The rally urges», «The rally stresses». Even in the section «The rally demands», the most «revolutionary» paragraph starts as follows: **«We suggest** that the discussion of Pioneer organizations with the participation of Young Pioneers be made a standard procedure...» For the uninitiated I'll explain that even in the local Councils of Young Pioneer organizations there are no pioneers. A paradox? In the draft resolution this question was considered, but its final version left everything unchanged. I saw myself how rational adults convinced children that the participation of several boys and girls (the age range of Young Pioneers is from 9 to 14) in the «adult» Council is a mere formality. But why should there be «adults» in the Young Pioneer Council? This question was not put on the agenda. Another rhetorical question — why does the rally not elect anyone for any position — also remained unanswered. It is rhetorical since Young Pioneers have no right to «elect and be elected» to higher bodies of their organizations. And as developments showed, nothing like this is foreseen.

But, coming from Artek to our everyday life, we shall see that almost everywhere Young Pioneer groups are subordinated to the school administration. The result is that the main figure at a Young Pioneer rally is the teacher and the work of Young Pioneers boils down to the compulsory task of collecting waste paper and scrap metal and marching to the beat of drums and the triumphant sound of the bugle.

«In our society adults have long since been regarding the Young Pioneers as a joyful, exultant crowd — a large group which waves flags for about 1,500 man-hours per year. But is it necessary to demonstrate us all the time, and at the slightest pretexts?» Yura Loskutov, a Young Pioneer from Krasnoyarsk, wrote to the Central Council of the All-Union Young Pioneer Organization before the rally and ended his letter with the following words: «We are a multimillion-strong army of striking individuals, capable of inventing, solving and making many interesting and useful things».

I agree that there are [illegible]rent children. I also understand very well the apprehension of aduts regarding children's self-administration. But only the best pioneers attended the rally. How tempting it would be to let them «invent and make many [illegible]teresting and useful things» [illegible]selves, and to see what will come of it. But why have they not ventured to do it?

A couple of years ago Yura's letter would never have been published, but today it is included in the press bulletin of the rally, and in many others of its kind. Thus, the signs of perestroika are clearly discernible. But only the signs as yet. The model of a «youngsters' republic» obviously did not work. During discussions the pioneers were professionally defeated by references to the incompetence of their proposals.

Advocating a practical orientation for the rally, the adults, attempting to keep up the good old tradition decided to put on large-scale shows. One of them — the aquatic festival — was televised.

But life is not just one big festivity, and sometimes it does not fit in the scenario. The events at the ceremonial parade simply represented the triumph of common sense. They cannot be called unexpected. In his Address to the rally Mikhail Gorbachev called upon the children: «You should be able to struggle for the rights of your own organization, organize efficient self-administration and pronounce more boldly collective judgements on any questions related to the life of Young Pioneers. This way you will live and work in conditions of socialist democracy, which are gaining momentum in our country». The delegates fulfilled the appeal of the General Secretary of the CPSU Central Committee, though awkwardly and childishly, trying seriously to become the main characters at the rally. In their organization we want to see the foundations of perestroika. As for the adults, they were not prepared for this, and herein lies the true lesson of the rally.

**Andrei VASILYEV**

# BREAKTHROUGH

**ON A WORLD WITHOUT MEDIUM- AND SHORTER-RANGE MISSILES**

TALKING in Washington with Ronald Reagan and George Shultz, Eduard Shevardnadze succeeded in reaching agreement in principle about the elimination of two classes of nuclear missiles.

This is the first major result of new political thinking. The powerful current of old political thinking carried the world from one weapons system to another, far more destabilizing and dangerous. Ten years ago it drove Washington to the idea of deploying in Europe its medium-range missiles. That made the USSR take adequate retaliatory measures.

The accords reached in Washington are of paramount political and practical importance. For the first time in the history of nuclear arms, a practical step has been made to reduce them. This first success should show us all that disarmament is feasible. It is our firm conviction that the momentum generated by the accords should be worked upon in order to achieve, without delay, an agreement on the 50-per-cent cuts in strategic offensive weapons while strictly adhering to and reinforcing the modalities of the ABM Treaty. The time is also ripe for resuming talks about a nuclear test ban. The sides should be worked upon in order to achieve, without delay, an agreement on the 50-per-cent progress towards a nuclear-free world, towards radically reduced levels of non-nuclear armaments.

The accords are extremely significant in the military sense. For the first time, the most up-to-date, dangerous and destabilizing systems in the two countries' nuclear arsenals — instead of obsolete weapons — are to be eliminated.

Once medium- and shorter-range missiles are destroyed, Western strategists professing the doctrine of the so-called controlled escalation of a nuclear conflict will have to reconsider their scenarios drastically. Those who advocate a «stepping-up» of nuclear warfare reason as follows: if theatre nuclear weapons are used as a follow-up for conventional warfare, nothing fatal is going to happen. The enemy can e[illegible]e «probed» with shorter-range missiles w[illegible]ut causing any doomsday. Using medium-range missiles is no Apocalypse either. A full stop can only be put by strategic offensive weapons.

Without medium- and shorter-range missiles, the «intermediate» variants will become all the more illusory. They will have to rely solely on the US forward-based weapons in Europe and Asia and the British and French nuclear capabilities. The reduced reliability of those variants must have a sobering effect and can eventually bring about their rejection. This means that the general situation might become more stable.

It should be borne in mind, however, that much has still to be done to turn the Washington accords into a full-fledged treaty. The delegations in Geneva must roll up their sleeves and get down to business. In October, in Moscow, there will be another meeting between Eduard Shevardnadze and George Shultz who are to receive the final texts of the documents prepared by the delegations. Then will come the most important stage of a summit meeting during which the medium- and shorter-range missile theatry is supposed to be signed and the entire range of Soviet-American relations discussed.

The firm accords and detailed timetable of all the stages in the preparation for the third Soviet-American summit provide grounds to hope that it will be successful.

Moscow will honourably fulfil its obligations. And Washington?

So far the response to the accords has been mostly positive. But can one forget how easily the US military-industrial complex has thrown its weight around in the recent past? One can still remember June, 1979, when President Carter, having signed SALT-2 in Geneva, went straight to Congress where he spoke about the vital importance of SALT-2 for America's security. All Carter's effort was in vain, however. The treaty was never ratified.

Perhaps, the military-industrial complex is now hoping to re-enact history? Such fears are well grounded, because those who oppose nuclear disarmament on both sides of the Atlantic are not sitting idle.

The day before these latest talks in Washington ended, a Soviet spokesman at a news briefing said: «This is history in the making». The catch phrase hit the front pages of many newspapers. It is hard work making history when eliminating two classes of nuclear missiles. The start and the finish of such a project are equally difficult.

**Boris PYADYSHEV**



*The city of Mozyr today. The V. I. Lenin square.*

*Photo by V. ALESHKEVICH.*

# WE SHALL REPEAT OUR TRIP

I'm still trying to sort out my thoughts on the trip. People ask me if I enjoyed it, expecting perhaps an emphatic NO, How Could You Enjoy A Trip To The USSR?

Well, I enjoyed the immensity of the country landscape around Minsk, walking around 'downtown' Minsk on the daily trading pin prowl, and being shoved through the local stores (no such thing as leisurely shopping before New Year's!).

I enjoyed hearing new and familiar music being played by all ages for us at private concerts, some tunes so hauntingly beautiful they brought tears to my eyes. I enjoyed seeing children like those I teach who, despite the propaganda they perhaps receive in school, were friendly and curious about the American musicians.

I enjoyed the other members of the BDAA who went on the trip and shared in the discoveries which such a trip affords. I especially enjoyed the freedom that allowed me to make such a trip and hope that some day reciprocal trips will be commonplace.

You should'a been there!

**Liz NUNAN**

тва. У яго работах мы не знойдзем складаных філасофскіх алегорый, фарматворчасці і да т. п. Створанае У. Галубком належыць свайму часу. Мастак адрасаваў творы ў першую чаргу маладому рабочаму і селяніну, тым, хто часта нават і не ведаў пра існаванне самога тэрміна «мастацтва», але інстынктыўна імкнуўся да свету характва і нават тварыў у адпаведнасці з народным ідэалам.

Пра пейзажы У. Галубка вельмі дакладна сказаў Алесь Звонак: «Была ў гэтых палотнах чараўнічая непасрэднасць першага ўражання, сагрэтая цёплым пачуццём замілавання непаўторнымі краявідамі роднай прыроды, была ў іх жывая, трапяткая душа народнага таленту». Вось гэтыя непасрэднасць, цеплыня і некаторая наіўнасць адлюстравання, якія заўсёды ўласцівыя народнаму мастацтву, былі бліжэй за ўсё тагачаснаму гледачу. Зразумелай была і мова жывапісу — простая і натуральная. Таму такой вялікай папулярнасцю карысталіся маленькія перасовачныя выстаўкі твораў У. Галубка, якія ў 20-я — 30-я гады адкрываліся ў самых глухіх і цёмных кутках маладой рэспублікі, там, дзе даваў спектаклі яго вандроўны тэатр.

«У 1920 годзе, пасля вызвалення Беларусі ад белапалякаў, з групай рабочых і вучнёўскай моладзі я арганізаваў калектыў, які паставіў сваёй мэтай абслугоўваць працоўнае жыхарства ўскраін, паселішч і вёсак БССР», —пісаў У. Галубок.

Першымі акцёрамі гэтага самадзейнага тэатра былі члены сям'і Уладзіслава Іосіфавіча: жонка Ядвіга Аляксандраўна і тры дачкі— Багуслава, Вільгельміна і Эмілія.

Незвычайны быў гэты «тэатр на колах», як ахрысцілі яго ў пачатку 20-х гадоў. Вандраваў ён ад клуба да клуба, ад вёскі да вёскі. Незвычайнае ў ім было ўсё: і акцёры, якія выконвалі па некалькі роляў у адным спектаклі, спявалі, танцавалі, ігралі на музычных інструментах, малявалі, шылі; і п'есы, што расказвалі пра жыццё беларускай вёскі, і дэкарацыі, якія пісаў сам Галубок.

Ішлі гады... Мяняліся становішча і назвы тэатра, абнаўляўся рэпертуар, прыходзілі новыя артысты, але месца, якое займаў у ім Уладзіслаў Галубок, заставалася нязменным. Драматург, рэжысёр, акцёр, музыкант, настаўнік моладзі, ён быў яшчэ і галоўным мастаком свайго тэатра. Я не памылілася, бо нават тады, калі трупа перайшла на дзяржаўнае ўтрыманне і ў ёй пачалі працаваць такія мастакі, як З. Азгур, І. Ахрэмчык, М. Марыкс, Я. Ціхановіч, думка «дзядзькі Галубка» пра афармленне спектакляў па-ранейшаму была галоўнай.

Тэатр пачынаўся з афішы...

«Трупай беларускіх артыстаў пад загадам Галубка ў нядзелю, 15 жніўня 1920 года, пастаўлена будзе камедыя Ул. Галубка «Суд». Пачатак у 8 гадзін вечара».

Рабіліся афішы на другім баку шпалераў. Галубок браў пэндзаль і ўпэўненай рукой выводзіў мудрагелістыя літары са складанымі выкрутасамі. «Доўгі час афішы пісаў сам бацька, — гаворыць старэйшая дачка Галубка — Багуслава. — Гэтыя афішы люба ўспомніць: маляўнічыя, жыццярадасныя, бачныя за вярсту. Пазней бацьку цяжка было, ды і часу не ставала, і ён перадаў гэты клопат мне».

Афішы з'яўляліся раніцай на сцяне дома ці клуба дзенебудзь у раёне Камароўкі, Пярэспы або Серабранкі. Адна, другая, трэцяя... І хутка ўжо ўвесь раён ведаў: увечары адбудзецца спектакль.

Тэатр не меў магчымасці перавозіць з сабою складаныя дэкарацыі, трымалі пры сабе толькі самае неабходнае з рэквізіту, бутафорыі, касцюмаў. Усё іншае: мэбля, посцілкі, якімі драпіравалі кулісы, і іншыя рэчы — пазычаліся на месцы. Кожны раз па-новаму, зыходзячы з уласцівасцей «інтэр'ера», даводзілася ствараць сцэнічную абстаноўку.

Адна сцяна памяшкання, як правіла, завешвалася так званым «заднікам» — вялікім палатном, на якім У. Галубок клеявымі фарбамі пісаў маляўнічы пейзаж. У залежнасці ад сюжэта п'есы гэта маглі быць краявіды роднай прыроды — лясы, лугі, рэкі або вясковая вулачка ці княжацкі замак. Нярэдка здаралася, што такі роспіс Галубок рабіў перад спектаклем проста на сцяне хаты. Так і заставаліся гэтыя своеасаблівыя творы як дар мастака людзям.

У штодзённым жыцці знаходзіў драматург патрэбны для сваёй працы матэрыял: тэмы і цікавыя тыпажы. З натуры і па памяці рабіў Уладзіслаў Іосіфавіч шматлікія выразныя замалёўкі «тыпаў», якія скарыстоўваў пры стварэнні таго ці іншага сцэнічнага вобраза. Ён імкнуўся падкрэсліць цікавыя індывідуальныя рысы твару, надаць ім адценне гумару. А потым, з улікам знешнасці выканаўцы, сам накладаў першы грым.

Займаўся ён таксама і тэатральным касцюмам. Па яго эскізах акцёры шыл[illegible]абе адзенне. Але часцей [illegible]убкоўцы» выступалі ў са[illegible]раўдных народных строях, якія бралі на час спектакля ў вяскоўцаў.

Язэп Семяжон, які бачыў У. Галубка ў ролі Панцюшы-коміка ў «Дыктатуры» [illegible]асказвае: «Ён сам прыду[illegible] сабе грым — гэтакі чубаты чырванашчокі дзяцюк з велізарнай ружовай кветкай у пятліцы пінжака, падабраў адпаведны касцюм і боты — з халяўкамі ў гармонічак і з белымі вушкамі, што вытыркаліся з-пад выцяжак. Паясок з чатырма кутасамі-булавешачкамі на канцах быў вельмі важнай дэталлю яго гардэроба».

Аднак было б даволі цяжка адасобіць работу Галубка як мастака тэатра ад усёй іншай тэатральнай дзейнасці. Так, стварэнне сцэнічнага касцюма было непасрэдна звязана з вывучэннем народнага адзення: бутафорыі і дэкарацыі рабіліся з улікам мясцовых традыцый і звычаяў: лепка вобразаў патрабавала тонкага ведання ўсёй багатай палітры беларускага фальклору. Родная мова, насычаная гумарам, беларускія песні, танцы, музыка арганічна ўваходзілі ў тэатральнае дзейства.

Мастацтва Уладзіслава Галубка — жыццёвае, глыбока рэалістычнае, сугучнае свайму часу — заваявала сэрцы мільёнаў гледачоў. Колькі людзей дзякуючы яму ўпершыню сустрэліся з тэатрам і жывапісам, адчынілі акно ў свет харства і дабрыні! Многія вядомыя цяпер мастакі і дзеячы тэатра лічаць, што менавіта «дзядзька Галубок» паўплываў на выбар імі жыццёвага шляху. Не без гордасці думаю пра тое, што Уладзіслаў Галубок — мой прадзед, а мастакі ў нашай сям'і ёсць у кожным пакаленні. Яго адданасць мастацтву, надзвычайная працавітасць, энергія і аптымізм, унутраная гатоўнасць барацьбы за дабро і справядлівасць заўсёды былі і застаюцца прыкладам для нас — яго ўнукаў і праўнукаў.

**Вольга ЦІХАНОВІЧ.**

*ЛЮБЫЯ СЭРЦУ МЯСЦІНЫ*

# ГОРАД НА РЭЧЦЫ ПЛІСА

Смалявічы, невялікі раённы цэнтр на Міншчыне, раскінуўся на ўзгорку пры былой Мінска-Барысаўскай дарозе — стратэгічным шляху заходняй часткі Русі. Тут спрадвеку стаялі сцяной і таямніча шумелі дрымучыя лясы. Старажылы сцвярджаюць, што толькі ў 20-я гады нашага стагоддзя ад Смалявіч крыху адступілі лясы і балоты. Ад самой назвы «Смалявічы» патыхае хваёвай смалой. У ямах-майданах тут здаўна прымітыўным спосабам гналі смалу і ёю гандлявалі, ад чаго, відаць, мястэчка і атрымала такую назву.

Смалявічы як уладанне князёў Астрожскіх вядома з 1508 года. Пазней яно належала князям Хрыстафору і Дамініку Радзівілам, Вітгенштэйну, Гагенлоэ.

Упершыню ў пісьмовых крыніцах горад упамінаецца ў прывілеі караля Рэчы Паспалітай Сігізмунда І ад 10 мая 1508 года, выдадзенай уладальніку Смалявіч Канстанціну Астрожскаму, военачальніку Вялікага княства Літоўскага. Арыгінал гэтага дакумента доўгі час захоўваўся ў архіве смалявіцкай Мікалаеўскай царквы.

У сакавіку 1909 года было ўзнята пытанне аб зносе струхлелага храма ў мястэчку. Была створана камісія, па заключэнню якой гэта драўляная царква потым неаднойчы перабудоўвалася і рамантавалася. Будынак меў вежу з чатырохскатным дахам. Асобна ад царквы стаяла двух'ярусная капліца-званіца. Самы вялікі звон тут адліты ў XIX стагоддзі настаяцелем царквы Іасафатам Зубовічам, аб чым сведчыць надпіс. На другім зване ўдалося разабраць толькі дату — 1707 год. На ўваходнай вежы было выразана па-польску «Гэта званіца пабудавана ў 1755 годзе мясцовымі майстрамі па прозвішчу Хмара, Канюшык і Жукоўскі». Члены камісіі зрабілі тады фотаздымкі царквы, якія разам з царкоўнай амуніцыяй былі перададзены ў Мінскі музей археалагічнага камітэта.

Стаўшы валасным цэнтрам Мінскай губерні, Смалявічы паступова пачалі адбудоўвацца і адыгрываць усё большую ролю ў тагачасным эканамічным жыцці краю. Тут гандлявалі дзёгцем, смалой, лесам (мачты, паўмачты, будаўнічы матэрыял), рознымі ганчарнымі вырабамі. Прадукцыя, якая выраблялася ў Смалявічах, вывозілася пераважна па рэках Плісе і Бярэзіне.

Праз Смалявічы стужкай уецца невялічкая рэчка Пліса, якая бярэ пачатак на ўсходніх схілах Мінскага ўзвышша ў балоцістай мясцовасці каля вёскі Дамашаны, што ў 10 кіламетрах ад мястэчка. Цячэ яна ў паўночна-ўсходнім напрамку і ўпадае ў Бярэзіну каля вёскі Ушкевічы. Пліса ў некаторых месцах вельмі вузкая, з пясчанымі берагамі, але ў мінулым прыводзіла ў рух 5 млыноў, 2 з іх у Смалявічах, іншыя ў вёсках Пліса, Жодзіна і Горы. Калісьці гэта рэчка была нават сплаўнай, і сплаў лесу пачынаўся ад Смалявіч, дзе выраблялі так званыя «англійскія брусы» і караўкі, якія напачатку сплаўлялі ў прыбалтыйскія порты праз Бярэзінска-Дзвінскі канал, што быў пабудаваны ў 1797—1805 гадах з мэтай транспарціроўкі лесаматэрыялаў з Мінскай губерні ў Рыгу. Па Плісе сплаўлялі лес паштучна да вёскі Ушкевічы. Там яго вязалі ў плыты для далейшай адпраўкі. Пазней сплаўлялі па Бярэзіне і Дняпру — у Крамянчуг, а з 1804 года ў Адэсу, Екацярынаслаў (цяпер Днепрапятроўск) і Херсон.

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

## З АПОШНІХ ВЕРНІСАЖАЎ





**Нядаўна ў Віцебску экспанавалася персанальная выстаўка мастака А. Някрасава, на ёй было прадстаўлена больш за 70 твораў самых розных жанраў.**

**Асабліва шырока аўтар прадставіў жаночы партрэт. У жанчыне мастак бачыць аснову жыцця, паэтычны пачатак свету.**

**Простыя твары старых жанчын глядзяць на нас з партрэтаў «Ля клёна», «Пад акном». У іх — мудрасць, унутраная гармонія, высакароднасць. Усе партрэты мастак піша ці ў інтэр'еры, ці на пленэры.**

**Ярка і паўнакроўна «жаночая» тэма акрэслілася ў творах аб мацярынстве. Тэма гэта невычарпальная і вечная, да яе звярталіся мастакі ўсіх эпох і народаў, але яна не перастала быць неабходнай нам і сёння. Аптымістычнае светаўспрыманне А. Някрасава, яго вера ў высакароднасць і прыгажосць чалавека выразна ўвасобіліся ў творах «Раніца», «Флора», «Родны дом».**

**А. Някрасаў паказаў сябе прыхільнікам «вечных» тэм у мастацтве і зрабіў гэта ўпэўнена і спакойна, з глыбокім усведамленнем сваёй праўды.**

**На выстаўцы быў паказаны і шэраг пейзажаў. Сярод іх вылучаецца серыя акварэлей «Па Міжземнамор'і» — непасрэдныя ўражанні А. Някрасава ад знаёмства з краінамі, што далі чалавецтву лепшыя ўзоры старажытнай і антычнай культуры. Гэтыя ўражанні ўзбагацілі мастака, унеслі ў яго палітру новы, яркі каларыт.**

**Л. БАЗАН.**



**НА ЗДЫМКАХ: А. НЯКРАСАЎ. «Лянок», «Партрэт жонкі мастака», «Бацькоўскі дом».**

